DISTRICTUS
# ПАВЕТ
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ
№ 8 (45) СНЕЖАНЬ 2005 г.

# З КАЛЯДАМІ І НОВЫМ ГОДАМ !

Каляда, Каляда, на зямлі – Сьвяты Вечар,
Нарадзіўся ў яслях Збавіцель Бог,
І пасталі бярозаў танклявыя свечкі
Паабапал заснежаных, белых дарог.

Халадно. Мо таму, што зіма на парозе,
Адчуваецца лютасць суровай пары,
А у полі пустым па шырокай дарозе
Плачуць несаму сумна ліхія вятры.

Чым жа сэрцы сагрэць? Як той холад адужыць?
Ці агеньчыкам цьмяным у сялянскім акне,
Калядою сьвятой, што насуперак сцюжам
Цеплынёй чалавечыя сэрцы кране?

Каляда, Каляда ... Нават зоркам трывожна.
Па заблытаных сцежках крутога жыцця
Да сваіх у гэты вечар сьпяшаецца кожны,
Ґдзе ў сям'і за сталом нас чакае куцця.

Сена пах, яліны, стаяць розныя стравы,
Прытаміўшыся, маці шчасліва маўчыць.
Садавя'цца сыны на шырокія лавы,
Што сышліся дамоў, каб душой адпачыць.

Добра сесці разом, слязу радасьці ўцерці,
Адчуваць, што ў застоллі, што побач браты,
У душы чысціня і ўзнёслыя сэрцы,
Бо з людзьмі разам Бог у гэты Вечар Сьвяты.

Ларыса Геніюш

Наталля Паплаўская. Гарадок у снезе

# ВЕСТКІ

Млын-вадзянік у вёсцы Зарачча лічыцца адной з перлінаў традыцыйнага дойлідства Беларускага Паазер'я. Сцены будынка ўзведзены ў канцы XVIII – пач. XIX стст. аздоблены ў тэхніцы разынкавай мураванкі. Дробныя каменьчыкі па волі будаўнікоў утвараюць стракаты дыван узораў, сярод якіх можна сустрэць выявы кветак, раслін, нават жывёл. Фотаздымкі з фрагментамі муроўкі Зарацкага млына аздабляюць шмат якія працы па гісторыі беларускага дойлідства. Аднак на працягу дзесяці апошніх гадоў помнік інтэнсіўна разбураецца. Часткова загінула разынкавая муроўка.

Не аказаліся дзейснымі ні адмысловыя тэле- і радыёзамалёўкі, ні звароты ва ўладныя структуры. Не зацікавіўся лёсам цікавейшага помніка і Нацыянальны парк. Так і дажывае свой век млын-прыгажун, занядбаны і нікому не патрэбны.



23 снежня ў выставачнай зале Музея традыцыйнай культуры адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы "Калядныя ўзоры".

Гэта – юбілейная, дзесятая выстава. На адкрыцці былі ўшанаваны тыя народныя майстры, якія ўдзельнічалі ва ўсіх дзесяці выставах. Юбілейная выстава сабрала лепшыя працы больш, чым 20 народных майстроў Браслаўшчыны. Прадстаўлены розныя напрамкі творчасці пляценне з саломкі, кераміка, разьбярства. Аднак акцэнт гэтым разам зроблены на працах з тэкстылю, якімі традыцыйна аздаблялі жытло і святочныя строі. Можна ўбачыць разнастайныя па тэхніцы выканання дываны (абрэзковая тэхніка, размалёўка, вышыўка), малюнкі, паясы, ручнікі.

І сама імпрэза, і арганізацыя выставы карыстаюцца значнай папулярнасцю ў Браславе. Шмат людным было адкрыццё і на гэты раз: прысутнічалі майстры, аматары народнага мастацтва, дзеці рознага ўзросту. Можна было набыць калядныя падарункі, паўдзельнічаць у святочнай латарэі, пераможцы якой атрымоўвалі вырабы народных майстроў.



Вітаўт Ермалёнак

# ДАСЛЕДЧЫКІ ТАЯМНІЦ

(Заканчэнне. Пачатак у №7 (44))

Ад сядзібы Якімовіча, хутка патрапілі да могільніка, побач з якім ў мінулым размяшчалася гарадзішча. Так, у мінулым, бо гарадзішча Субачава, якое шырока ўвайшло ў навуковы ўжытак, у раённай кнізе "Памяць" не існуе. Абследаванне юнымі археолагамі кар'ера не выявіла ніякіх слядоў культурнага пласта. Дарэмны былі нашы спадзяванні знайсці хоць якія-небудзь рэшткі гарадзішча Чорная гара. Пошукам перашкаджаў і хмызняк, густыя зараснікі якога ўскладнілі даследаванне. Тады, каб зусім не трапіць ў роспач, гурткоўцы пачалі абследаваць могільнік, дзе знайшлі цікавыя надгробкі мясцовай шляхты. Праўда, і тут былі сляды "чорных археолагаў", якія разрабавалі магілы, але надгробкі захаваліся і яны нам дапамаглі знайсці месца спачыну мясцовай шляхты. Усяго мы налічылі 18 пахаванняў XIX –пач. XX стагоддзяў: Алены Сулімы з роду Няміраў, Эміліі Ўрублеўскай, якая нарадзілася ў 1802 годзе і памерла ў 1890, Адама Буйвіда, Генрыха Буйвіда, Сабалеўскіх, Трашчынскіх, Яноўскіх і інш.

Далей мы накіраваліся ў Бор-Паляну, каб там на беразе возера разбіць лагер і адпачыць. Стомленнасць і доўгае блуканне па лесе аслабілі пільнасць краязнаўцаў, ды толькі не іх кіраўніка, які здалёк сваім спрактыкаваным вокам ўбачыў курганы. Сапраўды, на адлегласці два кіламетры на ўсход ад вёскі Субачава мы адкрылі новы археалагічны помнік X – XIII стагоддзяў –курганны могільнік. Паўкруглыя насыпы вышынёй да 1 м., дыяметрам да 6-8 метраў, абкружаны невялікімі раўчукамі. Пасля іх даследавання хутка паказалася дарога да ляснога возера.

На другі дзень пошукі археалагічных помнікаў былі працягнуты. Вырашылі, як і прапанаваў С.Якімовіч, даследаваць ўзгоркі пад назвай "Грады". Ужо сама назва паказвала магчымасць існавання там гарадзішчаў. Пасля доўгіх пошукаў па лесе выйшлі на ланцуг парослых лесам узгоркаў. Кожны пагорак, яго схілы абследаваліся і нарэшце – першы поспех. Магутныя валы, выдатная пляцоўка, стромкія схілы – сведчылі аб тым, што гэта не проста ўзгорак, а гарадзішча. Паўз яго прама праходзіла лясная дарога, таму было вельмі проста, нават не праводзячы шурфоўку, вызначыць і датаваць яго час існавання. Даследаванні "арганаўтаў" дазволілі зрабіць наступныя вывады. Памеры пляцоўкі, выцягнутай з поўначы на поўдзень 80 на 40 метраў. З усходняга боку акружана 4 валамі і равамі, з захаду – трыма. Вышыня схілаў 18 метраў. Знойдзены фрагменты ляпной керамікі, у культурным пласце шмат вугалёў, якія сведчыць аб пажары гарадзішча. Раструшчаныя абпаленыя камені паказваюць, што тут існавалі печы-каменкі. Зямля захавала і сляды бярвенняў, што даказвае існаванне жытла слупавой канструкцыі. Наяўнасць ў праслойцы зямлі касцей хатняй і дзікай жывёлы сведчаць аб існаванні жывёлагадоўлі і палявання. Таму меркаване краязнаўцаў было адзінадушным – гарадзішча адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, існавала прыблізна ў VII – I стст. да н.э. Вельмі нагадвае па сістэме ўмацаванняў і знаходкам гарадзішча ў нашым раёне ля вёскі Паддубнікі, якое добра даследавана вучонымі-археолагамі. Размешчана гарадзішча на адлегласці 1,5 кіламетра на ўсход ад вёскі Прасёлкавічы.

Пасля даследаванння гарадзішча наша вандроўка па градзе працягвалася. Адзін за другім міналі ўзгоркі і кожны з іх

абавязкова трэба было ўважліва аглядзець, таму што сваімі абрывістымі схіламі, ярамі вельмі знешне нагадвалі гарадзішчы. І вось, нарэшце, зноў адкрыццё. На адлегласці 3 км. на паўднёвы ўсход ад вёскі Копцева мы ўбачылі стромкі пагорак, .які ўтрымліваў культурны пласт. Пляцоўка памерамі 30 на 40 метраў была акружана адным валам, таксама выцягнута з поўначы на поўдзень.Культурны пласт менш насычаны, чым на першым адкрытым гарадзішчы, але вагаўся ад 20 да 40 см. Гэта сведчыла, што гарадзішча было больш раннее, мы аднеслі яго да VIII – V стст. да н.э. Насялялі яго таксама балцкія плямёны днепра-дзвінскай культуры. Менавіта тут Якімовіч С.Л. знайшоў у дзяцінстве каменную сякеру і таўкач ад зернецёркі.

Вандроўка па градзе працягвалася, здаецца, яна будзе бясконцай. Але вось апошні ўзгорак, ужо зарослы маладым лесам. Акружаны балотам, стромкія нават зараз схілы, маглі сведчылі аб тым, што тут таксама магло быць гарадзішча, але без культурнага пласта. Такія гарадзішчы археолагі называюць сховішчамі, бо людзі хаваліся на іх толькі падчас небяспекі, але стала не жылі. Магчыма, тут было і язычніцкае капішча, бо ў падножжа краязнаўцы знайшлі камень-валун з цікавымі паглыбленнямі. Падчас далейшага пошуку ў напрамку вёскі Копцева быў знойдзены яшчэ адзін камень вялікіх памераў, дыяметр якога склаў 3 метры. Стомленыя пошукамі, але задаволеныя адкрыццямі гуртkоўцы вярнуліся ў лагер. Наперадзе нас чакала яшчэ вывучэнне сядзібы Буйвідаў у Бор-Паляне.

Калісьці, пасля вайны, тут быў дзіцячы лагер, потым бальніца, пасля ў 60-ыя гады XX ст. усё прыйшло ў заняпад і практычна засталіся толькі сцены. Але прыгожыя мясціны заўважыў адзін прадпрымальнік, хутка быў наведзены дах, а зараз ўжо поўным ходам ідуць унутраныя работы: тынкоўка сцен, укладка падлогі. Усе аддзелачныя працы праводзяцца ў еўрастылі. Мяркуецца зрабіць тут гатэль для адпачываючых. Напэўна, гэта першы канкрэтны прыклад на Мёршчыне, калі гістарычны помнік, адноўлены з руінаў, атрымае другое жыццё. Задача гуртkоўцаў была іншая: вызначыць час існавання сядзібы. Праўда, будаўнікі паказалі нам на цаглянай сцяне надрапаныя лічбы – 1761. Але сам тып пабудовы сведчыў, што гэта архітэктурны помнік, пабудаваны ў стылі "мадэрн" у другой палове XIX ст. Муроўка сцен і скляпенняў падвала таксама даказваюць наша меркаванне. Але ўпарты пошук гуртkоўцаў Янушкевіча Аляксандра, Касевіча Уладзіміра завяршыўся поспехам. Былі знойдзены фрагменты керамікі і непаліванай кафлі з раслінным арнаментам, што сведчыць аб існаванні тут панскай сядзібы яшчэ ў XVI - XVII стст. Да нядаўняга часу па апавяданнях мясцовых жыхароў тут знаходзіліся скарбы, схаваныя былымі ўладальнікамі Буйвідамі. Сядзіба мела тоўстыя сцены і ў іх знаходзіліся пакоі-схованкі, дзе на паліцах былі схаваны каштоўнасці. Толькі за некалькі год невядомыя скарбашукальнікі ўзламалі сцены і разрабавалі каштоўнасці. Па ўскосных дадзеных можна меркаваць, што там былі старыя карціны, зброя, срэбраны посуд. Што датычыць "Арганаўтаў мінулага", то яны былі задаволены знаходкамі іншых скарбаў: невядомых раней вучоным помнікаў археалогіі.



Старадаўняй
Літоўскай
Пагоні
не разьбіць,
не спыніць,
не стрымаць!

*Максім Багдановіч*

**Мікола Плавінскі**

*Экспедыцыі, пошукі, знаходкі*

# Новыя археалагічныя помнікі Браслаўшчыны

У 2005 годзе сумесная археалагічная экспедыцыя Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі пад кіраўніцтвам аўтара праводзіла даследаванні на тэрыторыі Браслаўскага раёна. Праца экспедыцыі складалася з двух асноўных частак – пошуку новых археалагічных помнікаў, у першую чаргу сярэднявечных селішчаў, і раскопак курганнага могільніка Пагошча.

Неацэнную дапамогу ў пошуку новых археалагічных помнікаў аказалі супрацоўнікі Браслаўскага раённага аб'яднання краязнаўчых музеяў Кастусь Шыдлоўскі і Валеры Зінкевіч. Менавіта спадар Кастусь паведаміў аб тым, што на паўвыспе паўднёвага берага возера Неспіш былі знойдзены фрагменты керамікі, кафлі, бронзавыя вырабы і манеты. У выніку абследавання мясцовасці выяўлена селішча, у разараным культурным слаі якога таксама сабраны фрагменты паліванай і непаліванай керамікі, імпартовай рэйнскай керамікі – «каменнага тавару», тэракотавай кафлі, кавалкі пацінаванага шкла і жужалю.

На размешчанай на поўнач ад выяўленага селішча выспе манастыр існаваў Браслаўскі мужчынскі праваслаўны (а з 1635 года ўніяцкі) манастыр з царквой «пречистой матере Божей». Даследчыкі мяркуюць, што манастыр існаваў ужо ў XV ст., а магчыма яго заснаванне адбылося яшчэ ў часы Полацкага княства. На пачатку XVI ст. Прачысценскі манастыр атрымаў ад жонкі Вялікага князя Аляксандра Ягелончыка Алены ва ўладанне возера і шэраг навакольных пасяленняў. Вядома, што на паўднёвым беразе возера Неспіш існаваў заезны двор – аўстэрыя, з якім, верагодна, і можна атаясамліваць выяўленае селішча.

Яшчэ адно селішча было адкрыта на ўсходнім беразе возера Аболе. Інфармацыя аб знаходках, якія паходзяць з гэтага месца (а менавіта, фрагментах ганчарнай керамікі і крамянёвых вырабах), была таксама паведамлена спадаром Шыдлоўскім (*пад'ёмны археалагічны матэрыял з воз.Аболе ў музей быў перададзены Пятром Агейчыкам з Браслава - Рэд.*). Археалагічная разведка выявіла наяўнасць культурнага слою побач з хутарам Трабшы. Знойдзеныя тут рэчы належаць да двух розных эпох. Крамянёвыя вырабы датуюцца эпохай мезаліту і неаліту, а кераміка адносіцца да познесярэднявечнага часу. Цікава адзначыць, што непадалёк ад выяўленага селішча, на тым жа ўсходнім беразе возера Аболе, намі былі знойдзены яшчэ дзве мезалітычныя

прылады.

Асноўная ўвага экспедыцыі была сканцэнтравана на вывучэнні ваколіц в.Пагошча. У 1996 г. настаўнік гісторыі і геаграфіі Канстапінскай базавай школы Віктар Бунта адкрыў побач з вёскай у лесе на ўсходнім беразе возера Бяржонка курганны могільнік. Быў гэты могільнік выяўлены ўпершыню, ці ён ужо мог узгадвацца ў археалагічнай літаратуры, трэба яшчэ высвятляць.



Фота 1. Кругавы гаршчок



Малюнак 1. Фібула і гузікі

Раскопкі кургаиоў – справа вельмі працаёмкая. Іх правядзенне стала магчымым дзякуючы арганізацыі валанцёрскага летніка, у працы якога ў розны час прынялі ўдзел канстапінскія і опсаўскія школьнікі, добраахвотнікі з Браслава, Мінска і нават шэрагу еўрапейскіх краін. Самую актыўную ролю ў арганізацыі летніка прынялі Віктар і Святлана Бунта. Але спыняцца на апісанні жыцця валанцёраў мы не станем, бо гэтаму прысвечаны асобны артыкул спадара Бунты.

На курганным могільніку быў закладзены вялікі раскоп, які цалкам уключыў два курганы. У першым кургане было выяўлена пахаванне па абрадзе трупапакладання. Пахаваны, арыентаваны галавой на ўсход, ляжаў у падкурганнай яме. Пры ім знойдзены кругавы гаршчок (фота 1), бронзавая фібула і чатыры гузікі (малюнак 1), жалезны наканечнік кап'я і нож. Пахаванне прыблізна датуецца канцом X–пачаткам XI ст. У кургане 2 пахаванне не выяўлена. Але ў насыпе была знойдзена жалезная матыка, якую, верагодна, згубілі падчас яго ўзвядзення.

Акрамя раскопак курганнага могільніка, у Пагошчы было выяўлена два селішчы. Гэтыя помнікі былі адкрыты дзякуючы назіральнасці канстапінскіх школьнікаў. Дарэчы, варта ўзгадаць, што вёска Пагошча вядома з пачатку XVI ст.

Селішча Пагошча I знаходзіцца на паўночным беразе возера Пагошча, дзе зараз размяшчаюцца вясковыя гароды і падворкі. Тут знойдзена кераміка, якая датуецца часам ад XIV–XV да этнаграфічнага перыяду.

Селішча Пагошча II (Канстапіна) адкрыта на паўднёвым беразе Пагашчанскага возера. Уся плошча селішча таксама занята гародамі. Сабраны тут пад'ёмны матэрыял складаецца з фрагмента каменнай шліфаванай сякеры, штрыхаванай керамікі і керамікі XVI–XVIII стст.

Падсумоўваючы вынікі праведзеных даследаванняў, можна сказаць, што 2005 год быў плённым на выяўленне новых археалагічных помнікаў. Але дадзеныя, атрыманыя падчас археалагічных разведак, патрабуюць далейшага вывучэння. Відавочную цікавасць уяўляе правядзенне раскопак паселішча на паўднёвым беразе возера Неспіш і яго сувязі з Прачысценскім манастыром. Надзвычай перспектыўным ў сэнсе выяўлення помнікаў каменнага веку, у першую чаргу, дагэтуль не вядомай на Браслаўшчыне эпохі мезаліту, падаецца ўсходні бераг возера Аболе. Матэрыялы, атрыманыя пры раскопках курганоў у Пагошчы, дазваляюць спадзявацца на новыя адкрыцці ў наступным 2006 годзе.

Напрыканцы хочацца нагадаць, што Браслаўскае Паазер'е лічыцца адным з найлепш вывучаных у археалагічным сэнсе рэгіёнаў Беларусі. Гэта стала магчымым не толькі дзякуючы працы некалькіх пакаленняў археолагаў, якія надавалі шмат сваёй увагі вывучэнню Браслаўшчыны. У роўнай ступені такая сітуацыя склалася дзякуючы апантанасці і нястомнасці мясцовых краязнаўцаў. Такія людзі, як Кастусь Шыдлоўскі, Валеры Зінкевіч, Алесь Курбан, Віктар Бунта прыкладаюць не меншыя намаганні да вывучэння старажытнасцяў свайго краю, чым прафесійныя археолагі. Асабліва важна тое, што яны перадаюць сваю любоў да родных мясцінаў падрастаючым пакаленням браслаўчан. А гэта дазваляе спадзявацца, што і надалей спадчына гэтага цудоўнага кутка Беларускага Паазер'яў будзе ў надзейных і ашчадных руках.

---

**Віктар Бунто**

# Раскопкі курганнага могільніка Пагошча

У 1996 г. аўтару гэтых радкоў пашанцавала знайсці на беразе воз. Бяржонка, што ў ваколіцах в.Пагошча, групу насыпаў, якія былі вельмі падобныя на курганны магільнік. Запрошанныя спецыялісты падцвердзілі правільнасць меркаванняў. Але цяжкі матэрыяльны стан, ў якім знаходзілася беларуская навука ў той час, не дававаў надзеі на хуткі прыезд археолагаў.

Вясной гэтага года наш пасёлак наведаў Мікола Плавінскі, аспірант Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, старэйшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, які зацікавіўся нашай знаходкай і прапанаваў Канстапінскай школе супрацоўніцтва ў раскопках курганоў. Было вырашана здзейсніць гэты праект як школьную археалагічную экспедыцыю.

Раскопкі праводзіліся ў 2 этапы. 15 чэрвеня Мікола Плавінскі наведаў Опсаўскую школу і выступіў перад дзецьмі з лекцыяй аб адметнасцях археалагічных раскопак і знаходках падчас раскопак курганнага могільніка Опса. Свой змястоўны расказ ён суправаджаў ілюстрацыйным матэрыялам. Далей навуковы супрацоўнік паведаміў аб тым, што ў чэрвені будуць адбывацца археалагічныя раскопкі курганнага могільніка за в.Пагошча і запрасіў да ўдзелу ў іх. Так да нас далучыліся аматары даўніны роднага краю з Опсаўскай СШ, адміністрацыя якой ўвяла раскопкі ў праграму школьнага летніка. Знайшліся дабраахвотнікі, якія не пабаяліся цяжкай працы, і сярод навучэнцаў Браслаўскай гімназіі.

Усяго працавала 57 чалавек. Работа вялася ў 2 змены па 4 гадзіны: I – з 9.00 па 13.00, II – з 14.00 па 18.00. Неабходны рыштунак быў прадстаўлены Кансталінскай БШ і навуковым кіраўніком раскопак М.Плавінскім. Вучні Кансталіны былі разбіты на 2 каманды па 12-14 чалавек, якія працавалі пазменна. Опсаўская СШ арганізавала працу на раскопках у праграме летніка пры школе. Школьнікаў падвозілі на аўтобусе. За кошт арганізатара раскопак дзецям быў забяспечаны арганізаваны гарачы перакус.

Кругласутачнае пражыванне школьнікаў па раскопках не прадугледжвалася (хаця многія заставаліся з радасцю).

Праца адразу пачалася на двух курганах. У плане знаходак цікавымі былі першыя дні раскопак: вучні знайшлі жалезную матыку X–XI стст.. У наступныя дні былі скончаны работы на кургане 2.



**Жалезная матыка X - XI стст.**

У апошні дзень першага этапу раскопак М.Плавінскі падвёў вынікі работы. Ён вызначыў аб'ём работ, праведзеных дзецьмі, больш дэталёва пазнаёміў іх са знаходкамі і выказаў вялікую ўдзячнасць усім , хто прымаў у ёй удзел. Усе удзельнікі атрымалі адмысловыя друкаваныя падзякі ад кіраўніка раскопак.

На другім этапе раскопкі былі працягнуты ў праграме валанцёрскага летніка, удзельнікамі якога былі 18 дабраахвотнікаў з 8 краін: Беларусі, Германіі, Ірландыі, Італіі, Францыі, Шатландыі, Швейцарыі і Швецыі ва ўзросце 19 – 42 год. Прыехалі яны сюды папрацаваць (дарэчы, не патрабуючы аплаты), пазнаёміцца з новымі людзьмі, пабываць у Беларусі.

На беразе возера Бяржонка быў арганізаваны палатачны лагер. Пастаянную дапамогу ў раскопках аказвалі 9 мясцовых школьнікаў-энтузіястаў, якія таксама забяспечвалі валанцёраў хатнімі прадуктамі. Іншаземцы аказаліся неблагімі працаўнікамі, мужна пераносілі цяжкасці палявога жыцця і капрызы надвор'я. У вольны час удзельнікі летніка купаліся, знаёміліся з наваколлем, ездзілі на экскурсіі – па наваколлям Браслава і Пагошчы, якія ім ладзіў аўтар гэтых радкоў. Замежнікам было цікава ўсё: ад гісторыі Браслаўшчыны да асаблівасцей быту мясцовых жыхароў. Прыгод дабавіла і надвор'е, якое падкінула нашым гасцям рэдкія па інтэнсіўнасці пралiўныя дажджы.

Былі працягнуты раскопкі кургана 2, які з'явіўся мужчынскім пахаваннем верагодна полацкага дружынніка. Побач з касцяком былі выяўлены капʼё, нож, кругавы гаршчок. На рэштках адзення знойдзены бронзавыя фібула і гузікі.

Пасля сканчэння летніка раскапаныя курганы былі адноўлены, так што наша мясцовасць не страціла свайго экскурсійнага аб'екта.

Юныя археолагі з Кансталіны, якія ўжо не першы раз на раскопках – за іх плячыма праца на гарадзішчы Рацюнкі і таму валодаючы некаторымі ведамі па археалогіі, яны знайшлі ў ваколіцах Пагошчы кавалкі старажытнай керамікі і рэшткі выплаўкі металаў Як вызначыў пасля папярэдняга вывучэння навуковы кіраўнік раскопак М.Плавінскі гэта сляды 2 паселішчаў: жалезнага веку і позняга сярэдневечча.

Падводзячы вынікі праекта неабходна адзначыць некалькі момантаў:

1. Праца кансталінскіх і опсаўскіх юных краязнаўцаў паказала, што курганны магільнік Пагошча аказаўся цікавым і перспектыўным археалагічным помнікам.

2. Вучні школ набылі поўны вопыт працы на археалагічных раскопках, змаглі адчуць усю адказнасць і стараннасць, неабходныя ў рабоце, а таксама цяжкасць гэтай працы. А галоўнае, вучні сваімі рукамі "дакрануліся" да гісторыі свайго краю , прынялі ўдзел у яе адкрыцці і ўзбагачэнні.

На заканчэнні аўтар ад імя арганізатараў раскопак выказвае шчырую ўдзячнасць начальніку раённага аддзела адукацыі І.Абаровічу і старшыні праўлення СВК "Маяк Браслаўскі" Р.Шукялю за дапамогу і падтрымку гэтага праекта.

## Снежаньскі выпуск выдання «Браслаўскі ліст» выхадцаў з Браслаўшчыны ў Польшчы

Змешчаны развітальныя словы Язэпа Кляновіча (Джона Конрада) з ЗША. Ян Кляновіч – чалавек, закаханы ў свой родны Браслаў, ён шмат зрабіў, каб аб'яднаць выхадцаў з Браслаўшчыны, якіх лёс раскідаў па розных краінах свету, дапамагаў дзейнасці Браслаўскага "Дома палякаў", выдавецкім праектам музея, сабраў вялізную колькасць фотаматэрыялаў аб Браслаўшчыне, быў ініцыятарам выставы "Браслаўшчына", якая дэманстравалася ў Гданьску і Варшаве. Напрыканцы 2004 года прэзідэнт Польшчы Аляксандр Кваснеўскі ўзнагародзіў Я.Кляновіча ордэнам "Афіцэрскі крыж заслугі перад Польшчай". Ян Кляновіч мае слабае здароўе, хворыя вочы і вырашыў загадзя развітацца з сябрамі і паплечнікамі па працы дзеля аб'яднання патрыётаў Браслаўшчыны, выказаць ім усім удзячнасць. Дарэчы, у далейшым дапамагаць дзейнасці браслаўцаў будзе спецыяльна створаны "Фонд Аляксандра Кляновіча", які Ян Кляновіч назваў у гонар свайго бацькі.

У выпуску змешчаны разнастайныя весткі, якія тычацца дзейнасці браслаўцаў. Некаторыя з іх будуць цікавымі браслаўскаму чытачу. Вікторыя Бляхарская паведамляе, што выстава "Браслаўшчына" заняла трэцяе месца на конкурсе міністра культуры Польшчы "Sybilla-2004". На конкурс былі прадстаўлены матэрыялы на 243 выставы. Пры Гданьскім этнаграфічным музеі, якім кіруе В.Бляхарская, наша зямлячка, пачаў ствараццa Архіў браслаўскіх фотаматэрыялаў і дакументаў. У яго аснове – калекцыя Яна Кляновіча. Марыя Ганушак з Ольштына піша аб побыце групы браслаўцаў у Браславе ў ліпені. Ад Юзафа Далецкага з Жэшува даведваемся, што мясцовыя браслаўцы падрыхтавалі 2 стэнды для перасоўнай выставы, арганізаванай Таварыствам аматараў Вільні і Віленшчыны. Выстава экспанавалася ў навучальных установах горада. Выхадцы з Браслаўшчыны, якія жывуць у Варшаве, паведамляе Уладзіслаў Крачук, вырашылі выдаваць "Браслаўскі каталог" – даведнік аб выданнях і дакументах, звязаных з Браслаўшчынай. Першы выпуск каталога чакаецца ў першыя месяцы 2006 года.

"Браслаўскі ліст" змяшчае інфармацыю аб тым, што ў красавіку 2006 г. адбудзецца адкрытая сустрэча браслаўцаў і з'езд сяброў Польскага таварыства браслаўцаў. Чакаецца сур'ёзная размова аб працы браслаўцаў у будучым.

## *Выдавецкія навіны*

Дзякуючы Яцаку Якубчыку з Польшчы, які мае браслаўскія карані, музейная бібліятэка папоўнілася кнігай Отана Гедэмана **"Гісторыя Белавежскай пушчы ў Польшчы перад падзеламі (у перыяд да 1798 г.)"**. О.Гедэман – выдатны даследчык гісторыі Браслаўшчыны і суседніх рэгіёнаў, аўтар шэрагу манаграфій, напісаных на падставе архіўных матэрыялаў. У апошнія гады жыцця (О.Гедэман памёр у 1937 г.) гісторык актыўна збіраў матэрыялы па гісторыі адной са старажытных пушчаў Еўропы. Гэта стала магчымым дзякуючы фінансавай падтрымцы Фонду Нацыянальнай культуры і дапамозе былога браслаўскага старосты Зеліслава Янушкевіча, які з Браслава быў пераведзены старостам у Бельск-Падляскі, побач з тэрыторыяй Белавежскай пушчы. Да таго трэба дадаць, што О.Гедэман апантана любіў прыроду, быў аматарам лясных вандровак, рыбнай лоўлі. Сярод яго прац "браслаўскага перыяду" ёсць манаграфія "Даўнія пушчы і воды", прысвечаная эксплуатацыі прыродных багаццяў браслаўска-дзісненскага рэгіёну.




Сваю працу над кнігай па гісторыі Белавежскай пушчы О.Гедэман не здолеў завяршыць. Манаграфія пабачыла свет ужо пасля смерці гісторыка ў серыі выданняў Даследчага інстытута дзяржаўных лясоў (Варшава, 1939 г.). Аўтар падрыхтаваў да друку толькі першы раздзел, другі і трэці ўяўлялі сабой не да канца сістэматызаваныя выпіскі і іншыя матэрыялы. Апрацаванне рукапісу ўзяў на сябе Віктар Гартман, які кіраваўся планамі і нататкамі аўтара.

Выдадзеная ў год, калі пачалася другая сусветная вайна, манаграфія О.Гедэмана стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Яна адсутнічала ў фондах буйнейшых бібліятэк Беларусі. Не было кнігі і ў калекцыі Браслаўскага музейнага аб'яднання, у якой сабраны амаль усе выданні О.Гедэмана.

Кніга, дасланая Я.Якубчыкам – гэта рэпрынтнае ўзнаўленне паводле аднаго з асобнікаў 1939 г. Выданне рэпрынту ініцыявала і падтрымала Белавежскае лясніцтва, сродкі выдаткаваў бровар "Зубр". Падрыхтавала рэпрынт агенцтва "Benkowski" у Беластоку, дзе зацікаўлены чытач можа яго замовіць (тэл.748-92-69,E-mail: agencja@benkowski.pl).

---

Марыя Ганушак з Ольштына даслала спецыяльны нумар "Браслаўска-Ольштынскага бюлютэня". Асноўная частка нумара ўтрымлівае матэрыял Е.Дзевятоўскага-Гінтаўта, прысвечаны паездцы групы выхадцаў з Браслаўшчыны па маршруту Друскенікі-Вільня-Браслаў-Наваполацк-Горадня. Дарэчы, як інфармуе М.Ганушак, планусцца выданне асобнай кніжкі з уражаннямі аб вандроўках браслаўцаў у родныя мясціны. У бюлютэні змешчаны таксама іншыя матэрыялы, у тым ліку і некалькі перадрукаванак з выдання "Павет". Паводле слоў М.Ганушак, наша выданне выклікае цікаўнасць сярод сяброў ольштынскага аддзела арганізацыі браслаўцаў. На сустрэчах пераказваецца змест асноўных публікацый "Павета". Робіць гэта Юлія Януковіч, наша зямлячка, якая нядрэнна ведае беларускую мову.

*"Старонкі кахання" — так назвала сваю першую кнігу вершаў Святлана Цынцель. Кніга пабачыла свет увосень 2005 года. С.Цынцель — спецыяліст аддзела культуры, асоба творчая, актыўная ўдзельніца самадзейнасці. У прадмове да зборніка супрацоўнік раённай газеты "Браслаўская звязда" М.Дзянісаў адзначыў "Лірычная гераіня твораў Святланы Цынцель — наша сучасніца, жанчына — маці — любімая і пакінутая, надзеленая багатым жыццёвым досведам, але разам з тым наіўная і даверлівая, у якой сэнс жыцця — пошук шляхоў да дабра, справядлівасці, жаночага шчасця".*

*У зборнік увайшлі лепшыя вершы на беларускай і рускай мовах.*

### НЕСПАКОЙНАЕ СЭРЦА

Я, пакуль што, у жыцці
Не шукаю пакою.
А чаму? Не скажу,
Пэўна сэрца такое.
Можа, долю такую
Мне матулечка дала,
Як чаго дасягну,
Усё здаецца мне мала.
Мне здаецца, што мала
У жыцці я кахала,
І сапраўдных мужчын
Сустракалась мне мала.
У ліхую гадзіну мне
Сяброў не ставала,
На жыццёвым шляху
Я заўжды іх шукала.
Непаўторных пачуццяў,
Здавалася, мала.
І цябе, мой каханы,
Мне так не хапала.
Я жыву і жадаю,
Не шукаю пакою.
А чаму? Не скажу,
Пэўна сэрца такое!

* * *

Мамулечка, матулечка мая!
Дазволь табе ў любві прызнаюсь я.
Дарослая да рук тваіх тулюся
Ласкавых, як травіначка ў лузе.
Вучуся я спагадзе да людзей,
Ад цеплыні і шчырасці тваёй.
І колькі б бед цябе не апантала,
Ты жорсткай да людзей не стала.
Жыві, мая матулька, шмат гадоў,
Хай зберажэ цябе мая любоў.
Нязгасным светам мамінага сэрца
Пашчасціла на ўсё жыццё сагрэцца.

*Музейная справа*

# КРАЯЗНАЎЧАЯ ПРАЦА Ў ВІДЗСКІМ ПРОФТЭХВУЧЫЛІШЧЫ

З 1980-х гадоў пры Відзкім ПТВ існуе музей. Ён быў створаны па ініцыятыве выкладчыка вучылішча, энтузіаста краязнаўчай працы Аляксандра Самойленкі. Пад музей быў аддадзены пакой у новым корпусе інтэрната. Экспазіцыя раскрывае асобныя старонкі гісторыі Відзаў і бліжэйшага наваколля ад археалагічных часоў, а таксама гісторыю самаго вучылішча. Выстаўляецца калекцыя этнаграфічных прадметаў. Пасля зыходу А.Самойленкі з вучылішча, музей стаў прыходзіць у заняпад. На шчасце знайшоўся чалавек, які ўзяўся працягваць музейную і краязнаўчую працу. Таццяна Пляшывава, загадчыца бібліятэкі пры інтэрнаце СПТВ спачатку навяла парадак у экспазіцыі, а потым удасканаліла яе. Асабліва актывізавалася праца ў час падрыхтоўкі 50-й гадавіны юбілею вучылішча.

Цяпер экспазіцыю не сорамна паказаць наведвальнікам, якія ўбачаць тут шмат цікавага. Пад кіраўніцтвам Т.Пляшывавай праводзяцца краязнаўчыя даследванні, расце колькасць экспанатаў. Частка іх таксама выстаўляецца ў памяшканні бібліятэкі. Сабраны краязнаўчы матэрыял аформлены ў спецыяльныя папкі. Некаторыя матэрыялы могуць уяўляць цікавасць для даследчыкаў.

У зборах вылучаецца асобная калекцыя фотаздымкаў. Вельмі цікавыя здымкі з выглядам мястэчка ў 50-70-я гады XX ст., здымкі 1930-х гадоў, якія звязаныя з вясковым жыццём. Нядаўна калекцыя папоўнілася арыгіналам XIX ст. Гэта групавы студыйны здымак добрай якасці, на якім святочна апранутыя юнакі і мужчыны. У цэнтры – праваслаўны святар. Ці зроблены гэты здымак у Відзах, з якой падзеяй звязаны? Невядома. Пакуль адзіная падказка – подпіс на адвароце рамкі "S.P.W.11 $^{a}$ 84".

Магчыма з часам загадка будзе вырашана. Галоўнае здымак удалося выратаваць ад знішчэння. А колькі ўсяго цікавых гістарычных памятак ратуюць ад знішчэння такія рупліўцы як Таццяна Пляшывава.



**Новая знаходка відзскіх краязнаўцаў**




**Фотапаштоўка з выглядам Відзаў. 1950-60-я гады**

* * * * *

*З фотакалекцыі музея*



Будынак Відзскай сярэдняй школы. На адвароце подпіс, што школа была ўзведзена ў 1952 г. На фотаздымку толькі што ўзведзены школьны гмах. Вылучаюцца бялюткія, не кранутыя часам атынкаваныя сцены. Галоўны ўваход – па цэнтры корпуса. Безумоўна новы будынак упрыгожваў небагатае мястэчка, да таго ж разбуранае вайной. Прайшло няшмат часу і будынак аказаўся цеснаватым. Была ўзведзена прыбудова, перанесены ўваход. Потым адзін за адным узводзіліся дадатковыя будынкі. Вялікі наплыў дзяцей прыйшоўся на тыя часы (1960-70 гг.), калі зачыняліся навакольныя школы. Меліся планы ўзвядзення новай школы, але неўзабаве колькасць вучняў стала рэзка скарачацца.



Будынак Опсаўскай сярэдняй школы. Фотаздымак 1950-х гадоў. Школа размяшчалася ў даволі значным па аб'ёме драўляным двухпавярховым корпусе. Высокі складаны дах, мансарды, выступаючы порцік рабілі будынак прыгожым. Знаходзіўся гэты будынак насупраць галоўнага ўезду ў сядзібу. Узводзіўся ён з пачатку 1920-х гадоў коштам польскіх уладаў для размяшчэння дзяцей-сірот, якіх было вельмі многа пасля доўгага перыяду І-й сусветнай вайны. "Сіроцкі дом" у Опсе ўтрымліваўся дзяржавай, працавалі выхавацелі, тэхнічны персанал. У 1930-х гадах, калі дзяцей-сірот амаль не засталося, будынак перадалі пад школу. У 1970-х гадах, калі Опса атрымала новую школу, стары корпус разабралі. Аб яго існаванні нагадваюць толькі рэшткі падмуркаў.

# МУЗЕЙНЫЯ ЭКСПАЗІЦЫІ ДРЫСВЯЦКАЙ ШКОЛЫ

Дрысвяцкая школа адносіцца да ліку лідараў ў краязнаўчым руху на Браслаўшчыне. Юныя краязнаўцы пад кіраўніцтвам Эмы Шавэлла актыўна даследуюць розныя старонкі гісторыі Дрысвяцкага наваколля, культуру, быт насельніцтва, тапаніміку, удзельнічаюць у археалагічных даследваннях. У скарбонцы дрысвяцкіх краязнаўцаў узнагароды раённых, абласных і нацыянальных конкурсаў. Сваю працу Э.Шавэлла цесна каардынуе з Браслаўскім музеем. Цяпер Дрысвяцкая школа мае і свае ўласныя музейныя экспазіцыі. У адным з класаў абсталяваны экспазіцыі, прысвечаныя першай сусветнай і Вялікай Айчынай войнам. Выстаўлена шмат цікавых прадметаў – фрагменты зброі, амуніцыі, рыштунку. Дрысвяцкае наваколле, дзе праходзілі жорсткія баі абодвух войнаў, багатыя на такога роду памяткі. Ваенныя рэліквіі прыносяць пераважна хлопчыкі.

У зборы этнаграфічных матэрыялаў з задавальненнем бяруць удзел усе школьнікі. Асабліва падабаюцца выезды ў этнаграфічныя экспедыцыі на фурманцы, запрэжанай школьным канём. Перад такой экспедыцыяй не ўстаіць нават гаспадар-скныра, якому бывае шкада развітвацца з адпрацаваўшым свой век прадметам. Даволі хутка дрысвяцкія краязнаўцы сабралі вялікую, разнастайную і багатую калекцыю. У ёй – мэбля, адзенне, тканыя рэчы, прадметы быту сялян і местачкоўцаў, прылады працы, саматужныя вырабы.

Цяпер цікавыя знаходкі знайшлі сваё месца ў этнаграфічнай экспазіцыі. Пад яе адвялі цэлы класны пакой, светлы і даволі вялікі. У экспазіцыі вылучаны жылы пакой (святліца), сені, зроблены комплекс з паказам варыстай печы з багатым начыннем каля яе, таксама куток прадметаў гаспадарчага прызначэння. У цэлым экспазіцыя атрымалася змястоўнай, цікавай. Тут можна праводзіць не толькі пазнавальныя экскурсіі, але і заняткі.





Этнаграфічны міні-музей адкрывалі ўрачыста. Былі запрошаны мясцовыя майстрыхі С.Дарафеева і У.Бяляўская, якія падзяліліся ўспамінамі пра мінулае жыццё. Вучні паказалі народны абрад "За пачастунак", праспявалі народныя песні.

У бліжэйшых планах дрысвяцкіх краязнаўцаў – удасканаленне існуючых экспазіцый і стварэнне археалагічнай. Аснову археалагічнага кутка складуць матэрыялы падабраныя школьнікамі на месцы знішчанага гарадзішча Чорная Гара каля в.Нурвяны. Туды кожны год ладзяцца экспедыцыі юных краязнаўцаў. Іх выратавальная праца атрымала высокую ацэнку прафесійных археолагаў.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)